З калень падымемо Айчыну нашу мілую і будзем з ёю мы, а з намі будзе Бог!
Ларыса Геніюш

# ЗМАГАР

ВЫДАННЕ СЛОНІМСКАЙ РАДЫ БНФ

СНЕЖАНЬ 1999 г. №2 (6) На правах унутранай дакументацыі

*Слонімская Рада Беларускага Народнага Фронту "Адраджэньне" віншуе сваіх сяброў і прыхільнікаў з Новым годам. Жадаем усім шчасьця і здароўя. Няхай у наступным тысячагоддзі беларускі народ пачне жыць у цывілізаванай еўрапейскай краіне!*



## Фронт выказаўся за змены



30-31 кастрычніка прайшла другая сэсія VI з'езду БНФ "Адраджэньне", дзе ўзялі ўдзел 255 дэлегатаў.

У выніку таемнага галасавання па выбарах старшыні БНФ перамогу атрымаў Вінцук Вячорка (228 — "за", 11 — "супраць", тры бюлетэні былі прызнаны несапраўднымі). Ранейшы кіраўнік Зянон Пазьняк атрымаў найменшую падтрымку з моманту стварэння руху (11 — "за", 228 — "супраць").

Намеснікамі В. Вячоркі былі выбраны кіраўнік праваабарончага цэнтру "Вясна-96" Алесь Бяляцкі, намеснік прэзідэнта Беларускага кангрэсу дэмакратычных прафсаюзаў Віктар Івашкевіч, старшыня "Маладога Фронту" Павел Севярынец, адказны сакратар Управы БНФ Вячаслаў Сіўчык, кіраўнік Магілеўскай абласной арганізацыі БНФ Анатоль Фёдараў і намесьнік старшыні БНФ Юры Хадыка. Адначасна з'езд задаволіў просьбу аб адстаўцы в. а. старшыні Лявона Баршчэўскага, які цяпер будзе палітычным дараднікам кіраўніка БНФ.

Пасля завяршэння VI з'езду руху БНФ "Адраджэньне" 31 кастрычніка прайшоў IV з'езд Партыі БНФ (на ім прысутнічала 215 дэлегатаў), які прадубляваў яго рашэнні.

Пасля заканчэння з'ездаў, на прэс-канферэнцыі, Вінцук Вячорка адзначыў: "БНФ знайшоў у сабе сілы пераадолець унутраны крызіс. Мы вяртаемся да калектыўнага кіраўніцтва, угрунтаванага на рэалістычным аналізе сітуацыі ў грамадстве, на экспертных ацэнках, і дзякуючы таму, што мы адмаўляемся ўнутры арганізацыі ад нейкай манаполіі на апошнюю ісціну, Фронт вяртаецца да нармальнай дыскусіі. З гэтага вынікае, што мы будзем зноў пачувацца здольнымі ісьці на пагадненні, на салідарныя акцыі з усімі сіламі, якія, як і мы, вызнаюць каштоўнасці незалежнасці, дэмакратыі, вяртання ў еўрапейскую цывілізацыйную прастору…

У БНФ цяпер вялікія ўнутраныя задачы, мы павінны сур'ёзна заняцца актывізацыяй нашай дзейнасці па ўсіх кірунках — і палітычных, і грамадскіх. Мы не збіраемся замыкацца на нейкім адным кірунку працы, і, само сабой зразумела, мы не збіраемся сыходзіць з вуліцы, бо БНФ заўсёды ўважаўся за сілу, якая рэальна здольная арганізоўваць масавыя акцыі ў абарону нашых ідэалаў".

Н. Б.

# А што беларусам?

Як вядома, на пачатку снежня ў Маскве была падпісана дамова аб аб'яднанні Беларусі і Расіі. Да дня яе падпісання была прымеркавана акцыя пратэсту, у горадзе былі расклеены ўлёткі:

«Мы, жыхары Слонімшчыны, выступаем супраць аб'яднання Беларусі і Расіі, якое нам прынясе толькі вайну, голад, галечу. Мы не жадаем, каб нашыя дзеці станавіліся закладнікамі палітыкі Лукашэнкі, якая прывяла нашу дзяржаву да знішчэння.

Далоў саюзную дамову!

Няхай жыве вольная і незалежная Беларусь!».

Я мяркую, што большасць людзей разумеюць, каму больш за астатніх патрэбна гэта аб'яднанне. Ён ахвяраваў Беларусь дзеля пасады ў Крамлі, дзе ён мяркуе схавацца ад адказнасці за ўчыненыя на Беларусі злачынствы.

Але ж ёсць і Божы суд, спадар ЮДА!

Для расійскіх алігархаў Беларусь - гэта бясплатны шлях у Еўропу. Гэта нафта- і газаправоды, дарогі, ваенныя базы.

А для нас, простых беларускіх людзей, застаецца тое, пра што было сказана ва ўлётцы, ды магчымасць, як нам кажуць, свабоднага ездзіць у госці да «старэйшага брата». Цікава толькі за якія грошы, калі нашых заробкаў ледзь хапае на хлеб ды малако?..

**Іван Бедка**, старшыня Слонімскай рады БНФ




# Захаваем сваю незалежнасць!

Апошнія некалькі стагоддзяў жыць беларусам было значна цяжэй, чым усім іншым еўрапейскім народам.І ўсё дзякуючы няшчаснай залежнасці ад нашых мацнейшых суседзяў...

Пасля ўніі Вялікага Літоўска-Беларускага Княства з Польшчай, беларуская культура пачала выціскацца польскім панаваннем. Пазней прыйшла на Беларусь апека маскоўская. Расійскія цары нагналі ўсялякіх чыноўнікаў, запрудзілі наш край чорнай маскоўскай галыцьбой. Польска-панскі бізун змяніла чыноўніцка-жандарская нагайка. Ніхто з гэтых апекуноў і не думаў, як палепшыць жыццё беларуса.І адны, і другія глядзелі на Беларусь то як на «крэсы», то як на «окраину». Беларус на сва-

*Заканчэнне на 3 стар.*

# Радзіма-маці ці мачаха?

Радзіма-маці! Краіна, дзе я нарадзілася, пражыла ўсё жыццё, дзе ў зямлі ляжаць мае продкі, куды і я неўзабаве лягу.

Усё жыццё я была павінна маёй краіне, як і тысячы маіх супляменнікаў дабрасумленна працавала 40 гадоў, своечасова плаціла падаткі, выхавала дваіх дзяцей прыстойнымі грамадзянамі і... атрымала падзяку ад краіны - жабрацкую пенсію, каб толькі не здохнуць з галаду. Колькі помню сябе ў дзяцінстве - абарваная і галодная. Але ж гэта былі цяжкія пасляваенныя гады. Марылася, што ўзнімецца Беларусь, прыйдзе дабрабыт у нашы хаты, толькі трэба працаваць. І працавалі, жылы з сябе цягнуўшы, і спадзяваліся. Колькі абяцанняў за гэтыя гады мы пачулі ад краіны, колькі эксперыментаў над намі правялі і, нарэшце, дачакаліся - дакаціліся да поўнай галечы. Праўда, не ўсе. Некаторыя дарваліся да карыта, патаптаўшы сваіх жа, чаўкаюць там, аж вушамі трашчаць, і мараць, каб мы яшчэ трохі пацярпелі, бо краіне цяжка ад іх ненажэрнасці, трэба цярпець і дапамагаць.

А дзесьці там у Еўропе, ў маленькай краіне, не маючай нафты і газы, жыве такая самая жанчына. Яе краіну таксама не абышла вайна і таксама цяжка было ў пасляваенныя гады. І яна працавала як я, і спадзявалася, як я, на лепшую будучыню. І яе мары здзейсніліся.

Яна жыве ў цёплай утульнай хаце і не мае ўяўлення пра ацяпляльны сезон, яна ездзіць на машыне па добрых дарогах і ёй хапае грошай на дызпаліва, і ім можна запраўляцца па зніжаных коштах, яе горад зіхаціць агнямі цалюткую ноч, там не выкруціш нагу ў яміне каля самай хаты, яна модна апранаецца, ёй даступны любыя лекі, яна за сваю пенсію можа купіць любую садавіну, гародніну і фрукты, не грабучыся ў зямлі з ранняй вясны да позняй восені, яна кожны год ездзіць на адпачынак, а на Каляды - да дзяцей і ўнукаў у другую краіну з добрымі падарункамі. Яна жыве ў краіне, дзе не кідаюцца лозунгамі кшталту «усё для чалавека», «усё ў імя чалавека», а дбаюць пра гэтага простага чалавека.

Дык у каго з нас Радзіма-маці, а ў каго - мачаха?

**Алёна Ясень**

# Захаваем сваю незалежнасць!

ёй скуры адчуваў, што залежнасць дзяржаўная, ад каго б ні было, бокам залежнаму народу вылазіць.

Пасля распаду СССР Беларусь атрымала незалежнасць. Здавалася б, цяпер беларус зажыве шчасліва, але не... Ладзяць сваё самастойнае жыццё, свой дабрабыт тыя, хто вырваўся ад расійскай апекі і не думаюць варочацца ў ранейшы табар камуналкі, а будуюць свой новы шчаслівы дом. Беларусь пад кіраўніцтвам А.Лукашэнкі праводзіць палітыку ліквідацыі сваёй уласнай незалежнасці. «Без Расіі мы не пражывем, бо ў нас няма прыродных багаццяў», «Самым лёсам нам суджана жыць разам з Расіяй адной дзяржавай» - такія думкі ўбіваюць у галовы беларусаў розныя прыблуды і мясцовыя здраднікі. Беларус - вялікі працаўнік. Ён павінен падняць галаву ад зямлі, паглядзець вакол і задумацца, чаму гэта самастойная Галандыя без прыродных багаццяў, Фінляндыя на голых скалах поўначы - квітнеючыя краіны з высокім узроўнем жыцця? А мы, беларусы, маем столькі зямлі, лясоў, вады, маем трохі нафты, вялікія запасы соляў, якімі можам забяспечыць усю Еўропу! У нас развіта прамысловасць,ёсць высокі адукацыйны ўзровень людзей. Нашу краіну перасякаюць важныя чыгуначныя і аўтамабільныя дарогі. Мы знаходзімся ў цэнтры Еўропы.

Пры самастойнай, незалежнай, нейтральнай дзяржаве і ўмелым кіраўніцтве мы са свайго геаграфічнага становішча можам атрымліваць столькі выгод і прыбытку, што другім краінам і не снілася!

Будзем берагчы дар Божы нам - самастойнасць і незалежнасць нашай Бацькаўшчыны-Беларусі. Толькі адна поўная дзяржаўная незалежнасць можа даць і праўдзівую свабоду, і багатае існаванне, і добрую славу нашаму народу.

**Мікола Ракевіч**

# Ці будзе раскрыта чарговае злачынства?

Нядаўна ў Слоніме адбылося чарговае забойства маладой дзяўчыны. У чым жа яна паспела за свой такі кароткі век правініцца перад забойцамі, як і іншыя ахвяры? Ці будуць гэтыя злачынцы знойдзены?

У многіх слонімцаў паўстаюць падобныя пытанні. І гэта зразумела. У многіх ёсць дзеці, за жыццё каторых хвалююцца бацькі. Але, як бачым, улады няздольныя нас абараніць ад злачынцаў. Амаль усе забойствы так і не былі раскрытыя. І гэта адбываецца таму, што міліцыя не займаецца сваёй справай. Бо зараз дзеянні «органаў правапарадку» ацэньваюцца не колькасцю раскрытых злачынстваў, а колькасцю злоўленых п'яніц, самагоншчыкаў. Альбо, што яшчэ лепш, колькасцю прыцягнутых у пастарунак людзей, якія на плошчы пратэстуюць супраць павальнага абнішчання і жабрацтва. І пакуль будзе так, нашых дзяцей будуць збіваць і забіваць, а людзі будуць знікаць. Яны не вельмі спяшаюцца лавіць тых злачынцаў, таму што самы галоўны злачынца, пахан, сядзіць у Мінску пад вялікай ахованай. Мэта міліцыі — абараняць гэтую ўладу, назва якой - дыктатарскі рэжым. А нас з вамі яны павінны запалохаць, каб мы сядзелі ціха і ні аб чым не марылі, акрамя як аб абяцаннях Лукашэнкі ды аб « чарцы і шкварцы».

Таму, паважаныя слонімцы, пакуль існуе такая ўлада, нашыя пытанні застануцца без адказу.

**Сымон Рошчын**

# Чаму нельга ісці ў Расію?

Дамову Беларусі і Расіі, якая была падпісана ў Маскве А.Лукашэнкам і Б.Ельцыным, афіцыйная прапаганда выдае за вялікае дасягненне, быццам Беларусь атрымае ад яе значныя выгоды. Але гэта толькі першыя кветачкі, якія лашчаць вуха і вабяць зрок адурманенага прапагандай, споенага люду. Горкія плады гэтай дамовы мы будзем збіраць пазней. Дарога ў пекла заўсёды выбрукавана самымі добрымі намерамі: «хацелі як лепш, выйшла як заўсёды».

Расія налічвае 160 мільёнаў чалавек ды тэрыторыя яе ў дзесяткі разоў большая за Беларусь. Раўнапраўнага аб"яднання не атрымаецца. Можа быць толькі ўваходжанне Беларусі ў Расію, паглынанне апошняй нашай дзяржавы. А ў дужага заўсёды будзе вінаваты слабейшы...

У Расіі пануе крымінал. Людзей забіваюць на вуліцах, у пад"ездах, у кватэрах. Расія вядзе вайну ў Чачні, канца якой не відаць... І гэта толькі пачатак. Расія не можа без вайны. Такая яе ментальнасць - усім паказваць свае мускулы. А для вайны патрэбна гарматнае мяса. У Расіі тысячы дызерціраў, а беларус - паслушны, дысцыплінаваны, цягавіты салдат. Яго і будуць першым кідаць у пекла вайны. Размовы аб тым, што беларусаў не будуць пасылаць на вайну, якую развяжа Расія, ня што іншае як падман даверлівых.

Адна дзяржава (а так яно і будзе) - адна армія, адно камандаванне. А каманда будзе ісці з Масквы і паспрабуй ухіліцца ад яе - ваенны трыбунал. А пайшоў на вайну - чакай смерці, калецтва. Памалолі цябе ў жорнах вайны і выкінулі як непатрэбную рэч. Дажывай свой век на жабрацкія падачкі.

Нельга нам ісці ў Расію па многіх прычынах:

1. Расійская эканоміка - крымінальная, народ у Расіі абрабаваны махлярамі і прайдзісветамі да ніткі. Калі гэтая хвароба перанясецца на нашую

*Заканчэнне на 4 стар.*

# Аб'яднанне ці паглынанне?

Гарматныя стрэлы на Каўказе нядаўна абвясцілі, што мы, беларусы, аб'ядналіся ў новы саюз з Расіяй. Мяне, мякка кажучы, гэта насцярожыла. У апошні час на экранах расійскага тэлебачання ўсё часцей можна бачыць людзей у пагонах, якія выступаюць з непрыхаванымі пагрозамі не толькі ў адрас Чачні, але і Захаду. Зноў раскручваецца новы віток халоднай вайны, а ад халоднай і да гарачай недалёка...

Хіба гэта патрэбна Беларусі? Не сакрэт, што расійскія стратэгі-генералы, палітыкі, бізнэсмэны адвялі ёй ролю пярэдняга краю абароны і гандлёвага калідору, па якім алігархі хочуць бесперашкодна правозіць свае тавары ці, як яны кажуць, рабіць бізнэс. Ці не затрасе нас ад гэткага бізнесу ў яшчэ большай ліхаманцы беднасці і галечы?

Нам кажуць, што беларускіх хлопцаў не пашлюць у гарачыя кропкі. Але ж нам неаднаразова казалі, што саюз з Расіяй не ліквідуе беларускага суверэнітэту. А нядаўна сябра беларускіх дзяржаўных дзеячоў кіраўнік расійскай думы Генадзь Селязнёў у тэлэфіры заявіў, што Беларусь «войдет в состав России».

Вакол аб'яднання шмат інтрыгаў, недагаворак, хлусні. Сустракаюцца міністры, падпісваюць нейкія пагадненні, трымаючы іх у вялікім сакрэце. Што рыхтуюць яны нам заўтра?

Ужо вядуцца размовы, што ў гарачых кропках будуць ваяваць толькі добраахвотнікі. Па-першае, маладым людзям лёгка затлуміць галаву, каб яны рынуліся ў пекла, а па-другое, калісьці ў Расіі заяўлялі, што ў Чачні будуць ваяваць толькі кантрактнікі і добраахвотнікі. Цяпер жа мы бачым там не толькі рэгулярнае войска, але і міліцыю, спецназ.

Ад некаторых можна пачуць: «Я за аб'яднанне, бо ў Расіі жывуць мае дзеці, унукі. Трэба ездзіць да іх». А хіба хто перашкаджае ездзіць? Бяры білет, сядай на цягнік ды едзь!

А бясплатна толькі на «цюльпанах» возяць...

**Аляксей Якімовіч**




# Забаука прэзідэнта

Нашаму прэзідэнту асабліва падабаецца павышэнне цэнаў на гарэлку. Яны растуць як на дражджах. Вельмі падабаецца яму гэтая гульня. Знайшоў сабе забаўку дык знайшоў!

Максім Дрозд

# Чаму нельга ісці у Расію?

зямлю, то «новыя рускія» скупяць за бясцэнак беларускія прадпрыемствы.

2. Дарэмныя спадзяванні, што Расія знізіць цэны на энерганосьбіты і транспартныя паслугі для Беларусі. Расійскі прыватны сектар не захоча несці страты.

3. Стварэнне фінансава-прамысловых груп прывядзе толькі да ўмацавання пазіцый расійскага капіталу на шкоду Беларусі.

4. Нельга спадзявацца, што Расія будзе вечным рынкам збыту беларускага вытворцы, бо Расія мае свае, аналагічныя прадпрыемствы, і яны хутка стануць канкурэнтамі.

5. Саюз небяспечны для насельніцтва, бо абавязкова прывядзе да росту цэн на прадукты харчавання (у Расіі 1 літр малака каштуе 350 тыс.бел.руб.).

6. Расія сёння мае 160 мільярдаў даляраў запазычанасці (па 1076 даляраў на чалавека, у Беларусі - па 100 даляраў). Давядзецца нам, беларусам, разлічвацца з расійскімі даўгамі.

Дык не палезем у Расійскую петлю! Няўжо мы разумнейшыя за другія народы, якія, вырваўшыся з-пад расійскай апекі, не хочуць зноў ісці ў Расію? А пойдзем - будзем нявольнікамі навечна!

**Сымон Гушча**

ЗМАГАР

Выданне Слонімскай Рады БНФ.
Выходзіць з 1998 г.

Рэдактар Паўлюк Дубіна.
Наклад 299 паасобнікаў.
Надрукавана пры падтрымцы ГАГА «Ратуша»